


# Газета Слонімская

*Газета заснавана ў 1938 годзе. Аднаўлена ў 1997 годзе.*

№ 36 (117). 2 — 8 верасня 1999г. **Незалежны грамадска-палітычны штотыднёвік. Распаўсюджваецца ў Слоніме, Зэльве, Дзятлаве, Мастах.** Кошт 30.000 руб.


## 260 ЧАЛАВЕК ПРОСЯЦЬ АЛЕГА ЛАКЦЮШЫНА...

**Днямі ў рэдакцыю "ГС" работнікі мэблевай фабрыкі прынеслі калектыўнае пісьмо, якое падпісалі 260 чалавек.**


Убедительно просим Вас, принять необходимые меры для строительства пешеходного моста.

У сваім лісце людзі звяртаюцца асабіста да старшыні гарвыканкама Алега Лакцюшына з просьбай, каб ён "прыняў неабходныя меры для будаўніцтва пешаходнага моста праз раку Шчара".

Гэты масток раней злучаў дзве часткі горада паабапал ракі ў раёне спартыўнай школы №3, і таму быў вельмі зручным пераходам для работнікаў мэблевай фабрыкі, мясакамбіната і аўтапарка №3. На жаль, вясной крыгаход знёс драўляны масток.


*Тое, што засталося ад моста ў верасні*

Фота з архіва рэдакцыі

Пазней старшыня гарвыканкама Алег Лакцюшын паабяцаў насельніцтву праз газету "Слонімскі веснік" (ад 15 мая 1999 г., № 55), што яго адновяць. Але ўжо прайшло лета, хутка восень, а абяцанні начальніка так і засталіся абяцаннямі.

**Валодзя ЯНЧУК**

## "ПОСЕЛОК РАЗБИТЫХ ФОНАРЕЙ"

**Наш микрорайон, в виде отдельного поселка, живописно расположился недалеко от основной застройки города. В народе его называют "Энкой", а официально он числится как "Коссовский тракт". Хотя ни один из домов поселка не выходит на этот тракт, абсолютно все дома примыкают к проспекту Независимости. Интересно, но за 7 лет существования микрорайона никому так и не пришло в голову изменить название улицы.**

Поселок связан с городом автобусами №11 и 12. Их работу можно смело назвать условной, т.к. №12 (как, впрочем, и №11) ходит произвольно. В итоге никогда нет уверенности, что уедешь в намеченное время. Нередко приходится ждать автобус по 2 и больше часа. А ведь автобус №12 связывает нас с такими жизненно важными местами как вокзал и больница. В течение 7 лет ни одна автобусная остановка ( в том числе и конечная) не оборудована укрытием от непогоды.

А с водоснабжением — просто катастрофа. Почти постоянно идет ржавая вода, как холодная, так и горячая. Поэтому люди вынуждены, как во время военной разрухи или стихийного бедствия, идти за водой к родникам, выстраиваясь около них в очередь.

Но если такая вода из крана явно не пригодна для питья, то где есть гарантия, что вода из родников небезопасна?

Самое удивительное то, что водопроводная вода не используется, но водомером учитывается, и с жильцов за нее берётся немалая плата. Более того, при стирке такой водой портится бельё.



**(Продолжение на 2 стр.)**

### НАВІНЫ

## Зноў гарэлачны дэфіцыт

**Апошнім часам з прылаўкаў магазінаў Слоніма знікла гарэлка. Карэспандэнт "ГС" звярнуўся да начальніка гарадскога ўпраўлення гандлю Уладзіміра Сарокі, каб даведацца, у чым прычына.**

Уладзімір Сарока паведаміў, што, на яго думку, прычынай гэтаму з'яўляецца тое, што нядаўна Слонімскаму вінзаводу забаранілі выраблять алкагольную прадукцыю. Гэта пры тым, што прадпрыемства пастаўляла ў гарадскія магазіны больш 50% усіх алкагольных вырабаў.

І яшчэ адна алкагольная навіна: днямі выйшла ў свет пастанова беларускага ўрада, якая забараняе з 1 верасня 1999 года вытворчасць, а з 1 кастрычніка і рэалізацыю алкагольнай прадукцыі, выраблена́й з прымяненнем штучных (сінтэтычных) фарбавальнікаў.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

## Рожь по приказу не растет

**Министерство сельского хозяйства и продовольствия республики намерено обратиться к правительству с предложением о снижении объемов государственной закупки зерна.**

Как сообщают официальные источники, данное предложением вызвано в первую очередь тем, что в нынешнем году при запланированном урожае в шесть миллионов тонн зерна удалось собрать только около четырех миллионов тонн. Согласно плану, у колхозов и совхозов республики планировалось закупить 1 миллион 550 тысяч тонн продовольственного и фуражного зерна. В настоящее время этот план выполнен меньше чем на половину. Вследствие этого Министерство и пытается снизить объемы государственных закупок зерна до 1 миллиона тонн.

Стоит отметить, что крестьяне Гродненщины намолотили 860 тысяч тонн зерна, при этом средняя урожайность зерновых составила по области 24,2 центнера с гектара. Эти цифры значительно ниже прошлогодних показателей — соответственно на 220 тысяч тонн и 8 ц/га.

Как сообщил на пресс-конференции председатель облсельхозпрода Мечислав Костюк, региону придется дополнительно закупить 250-300 тысяч тонн зерна.

**БелаПАН**

## СЁННЯ Ў ШКОЛУ

**Высвятляецца, што ў мінулым навучальным годзе колькасць выпускнікоў, якія закончылі сярэднюю школу з залатым і сярэбраным медалямі знізілася ў параўнанні з папярэднім з 83 да 73 чалавек. Акрамя таго, веды 63% гарадскіх вучняў ацэнены толькі на здавальняюча.**


*Гэтыя маладыя настаўніцы сёлета закончылі навучальныя ўстановы і ў школах нашага горада праводзяць свае першыя ўрокі*

Фота Мікалая СУПРУНА

Як палепшыць якасць выкладання школьных прадметаў — пра гэта ішла размова на нядаўняй традыцыйнай жнівеньскай нарадзе педагогаў горада. Як падкрэсліў загадчык гарадскога аддзела адукацыі Аркадзь Бумагін, да ліку важнейшых стратэгічных задач рэформы школы адносіцца інфарматызацыя сістэмы адукацыі. У Слоніме ў гэтым плане ўжо нямала зроблена. У прыватнасці, усе 11 школ горада маюць класы вылічальнай тэхнікі, а гарадскі аддзел адукацыі першым у вобласці распрацаваў рэгіянальную праграму інфарматызацыі.

Звяртаючыся да пытанняў адраджэння традыцый нацыянальнай культуры і спадчыны, спадар Бумагін назваў СШ №2, 4, 8, 9. Сёлета з другой і чацвёртай сярэдніх школах створаны класы з беларускамоўным навучаннем. Было адзначана таксама, што існуе такая з'ява, як дзіцячае сацыяльнае сіроцтва, ці інакш кажучы, гэта тыя дзеці, якія сталі сіротамі пры жывых бацьках. Толькі за сем месяцаў 1999 года бацькоўскіх правоў пазбаўлены 14 чалавек. Невыпадкова таму ў Слоніме на базе дзіцячага садка №1 арганізаваны прытулак для дзяцей-сірот на 15 месцаў.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

## ДА 2000-ГОДДЗЯ РАСТВА ХРЫСТОВА

**На мінулым тыдні, 27 жніўня, жыхары Слоніма назіралі Хрэсны ход, хаця гэта быў будзённы дзень. Людзі са святымі песнямі і, што магло здацца дзіўным, з пляцакамі за спіной ішлі за святаром у накірунку Жыровіч.**

Гэта акцыя спланавана Міжнародным фондам адзінства праваслаўных народаў, які дзейнічае пад апекай Патрыярха маскоўскага і Усёй Русі Алексія II, і прымеркавана да надыходзячага 2000-годдзя Раства Хрыстова.


Фота IREX/ProMedia

У Беларусі Хрэсны ход "Волга — Днепр — Заходняя Дзвіна" праходзіў праз Гомель, Магілёў, Мінск, Жыровічы, Полацк і Віцебск.

У Жыровіцкім мужчынскім манастыры адбылося вялікае богаслужэнне, прысвечанае святу Успення Багародзіцы Дзевы Марыі. На ім прысутнічалі ўдзельнікі Хрэснага ходу, а таксама паломнікі з Беластоцкага ваяводства Рэспублікі Польшча.

**Мікола КАНАНОВІЧ**

### ЗДАРЭННІ

## Ідзе следства

**Як стала вядома "ГС", Гродзенская абласная пракуратура ўзбудзіла крымінальную справу супраць аднаго са слонімскіх адвакатаў.**

Ён абвінавачваецца па двух артыкулах Крымінальнага кодэкса: ашуканства ў асабліва вялікіх памерах і атрыманне хабару. Па гэтых фактах следства вядзе пракуратура горада Ваўкавыска.

**Валодзя ЯНЧУК**

## Сын пайшоў на бацьку

**Нядаўна ў Слоніме ў сваёй кватэры па вуліцы Чкалава быў знойдзены труп 43-гадовага Міхаіла Рыпінскага.**

Праваахоўныя органы ўстанавілі, што напярэдадні яго моцна збіў сын. Не выключана, лічаць следчыя, што гэта і паслужыла прычынай смерці мужчыны.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

## Рэкеціры з гранатай

**На мінулым тыдні ў Слоніме ля магазіна "Верасок", што на Брэсцкай вуліцы, трое мужчын і адна жанчына, пагражаючы гранатай, сталі вымагаць грошы ў прадаўшчыцы магазіна.**

Нічога не дамогшыся ад перапалоханай жанчыны, рэкеціры накіраваліся ў бар "Святлана", дзе ўчынілі дэбош. Там іх і затрымаў нарад міліцыі. Высветлілася, што ў складзе злачыннага квартэта былі двое раней судзімых жыхароў Мінскай вобласці і мясцовыя 25-гадовы мужчына і 20-гадовая жанчына.

**Міхась ЗАГОРСКІ**

ПАЛІТЫКА

# БЕЛАРУСКІ НАРОД ПАВІНЕН САМ ВЫЗНАЧЫЦЬ СВОЙ ЛЁС





**Рэдакцыя беларускай газеты "Ніва" знаходзіцца ў цэнтры Беластока. Яна выходзіць з 1956 года і аб'ядноўвае вакол сябе амаль усіх беларусаў Польшчы.**

**У сярэдзіне жніўня ў памяшканні гэтай рэдакцыі адбылася сустрэча старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 13 склікання Сямёна Шарэцкага, які цяпер знаходзіцца ў Літве, з кіраўніком Беларускага народнага фронту, які жыве ў Варшаве, Зянонам Пазняком (пра гэту сустрэчу прэса ўжо пісала). Сустрэчу ахоўвалі польская паліцыя і прадстаўнікі Бюро аховы ўрада з Варшавы.**

Некалькі гадзін ішла размова гэтых двух беларускіх палітыкаў. Пасля гутаркі Сямён Шарэцкі і Зянон Пазняк пацікавіліся становішчам беларускай нацыянальнай меншасці на Беласточчыне, а таксама радыёстанцыяй "Рацыя", якая восенню пачне вяшчаць на Беларусь беларускамоўныя перадачы. Палітыкі таксама адказалі на пытанні журналістаў тыднёвіка "Ніва". На днях гэтае інтэрв'ю было апублікавана ў вышэй названым выданні. У прыватнасці, Сямён Шарэцкі адзначыў, што "праз Беларусь ідуць расейскія цягнікі, качаюць газ у Еўропу, а Беларусь ад гэтага нічога не атрымлівае. А расіяне ходзяць сюды амаль як у свой агарод па маркоўку. Напрыклад, міністр замежных спраў — гэта палкоўнік ФСБ, міністр унутраных спраў — расійскі генерал (ён кажа, што ён беларус, але нарадзіўся і выхаваўся ў Расіі, можа бацька быў калісьці беларусам), першы намеснік старшыні КДБ таксама расійскі генерал, і самае галоўнае, што намеснік старшыні Савета Міністраў, які кіруе беларускай культурай і навукай — палкоўнік расійскай арміі, прычым па адукацыі ён — палітычны правакатар (такая ў яго адукацыя — прафесіянал па правакацыі). Знішчаецца ўсё беларускае, але самі беларусы пачынаюць з кожным днём адчуваць сябе больш і больш нацыяй. Хацелася б, каб неяк хутчэй гэтыя працэсы ішлі. На жаль, рэакцыйную ролю ў гэтым плане адыгрывае Праваслаўная царква. Калі тут, у Польшчы, Царква мае станоўчы ўплыў, то ў Беларусі — наадварот. У касцёлах пачынаюць ужо разумець і служыць па-беларуску. Гэтага не назіраецца ў праваслаўных храмах. Сам мітрапаліт Філарэт — масквіч і завозіць духавенства з Расіі. На амаль усе пасады рэктараў універсітэтаў, інстытутаў уладамі падабраны такія людзі, якія абяцаюць верна служыць Лукашэнку і не праводзіць ніякай беларусізацыі. Напрыклад, Казулін — рэктар Мінскага ўніверсітэта, тады, калі яго прызначылі, быў толькі кандыдатам навук. Такога ў Беларусі не было. Раней рэктарамі станавіліся акадэмікі або, у найгоршым выпадку, дактары навук. А ён стаў прафесарам, дзякуючы пасадзе.

"Мяне часта пытаюць, — кажа Шарэцкі, — чаму ў Беларусі не выходзяць сотні тысяч людзей на дэманстрацыю. Адказ просты: самыя актыўныя беларусы — навукоўцы, пісьменнікі, прадпрымальнікі ляжаць у Курапатах, або з'ехалі з Беларусі. Толькі за мінулы год выехала іх 12 тысяч. А просты народ — запалоханы. І калі цяпер дзесьці прыкмецяць, што ты супраць прэзідэнта, цябе звальняюць з працы, і ты не зможаш больш уладкавацца. Майго сына цяпер звольнілі з працы — ён працаваў у сістэме Міністэрства сельскай гаспадаркі. І я цяпер думаю, куды яго ўладкаваць, ці трэба выязджаць з Беларусі. Не маглі нічога знайсці на яго, каб пасадзіць, дык звольнілі з працы. І такіх людзей вельмі шмат... ," — сказаў Сямён Шарэцкі.

Зянон Пазняк адказаў журналістам "Нівы" толькі на адно пытанне: як ён ацэньвае сённяшнюю сітуацыю ў Беларусі?

"Ніхто на нас не наязджае танкамі, — сказаў лідэр БНФ, — але наш суверэнітэт у вялікай небяспецы. І гэта вынік перш за ўсё маскоўскай палітыкі. У 1996 годзе маскоўскія палітычныя колы непасрэдна прынялі ўдзел у падтрымцы перавароту Лукашэнкі і цяпер пацвердзілі прызнанне яго як прэзідэнта, у той час, калі паводле Канстытуцыі ён перастаў ім быць. Захад, які фактычна ўтрымлівае Расію, мае вялікія рычагі ўздзеяння на яе палітыку. Я кажу: калі Захад дае крэдыты, без якіх Расія не можа існаваць, то павінна быць пастаўлена ўмова спынення палітыкі "інтэграцыі" і заігрывання з Лукашэнкам. Я лічу, што ўсе беларускія палітычныя сілы павінны аб'яднаць намаганні ў гэтым напрамку. Калі я спатыкаюся з палітыкамі іншых краінаў, то стаўлю пытанне: падтрымайце гарантыі беларускага суверэнітэту. Беларускі народ сам павінен вырашыць свой дзяржаўны лёс. Беларусь павінна быць незалежнай, дэмакратычнай краінай у Еўропе," — лічыць Зянон Пазьняк.

**Сяргей ЧЫГРЫН, спецыяльна для "ГС" з Беластока**

# "ПОСЕЛОК РАЗБИТЫХ ФОНАРЕЙ"

**(Начало на 1 стр.)**

До сих пор в поселке нет овощного магазина. Если сложно решить этот вопрос, то уж для стихийно возникшего овощного рынка можно построить деревянные прилавочки с навесом, чтобы не шла торговля с земли.

Среди прочих проблем есть и такая деликатная, о которой вроде и неудобно говорить. Речь о библиотеке! Красивая, современная, с милыми, интеллигентными работниками. Но она спланирована таким образом, что должна делить общий туалет с диско-баром "Оскар". Последний лишает библиотеку возможности пользоваться туалетом. Но ведь, положим, если воду можно принести с собой (хотя это звучит в данном случае просто нелепо), то как же быть с библиотечным туалетом: носить с собой ночные горшки?

Большинство этих вопросов поднималось перед руководством города, которое обещало каждый раз при встрече с населением решить их. Но все обещания оказались пустыми. Возникает вопрос: чем же занимаются сочинители убедительных пустых обещаний, а будучи избранными (или назначенными) — сочинением как можно более убедительных объяснений своего безделья? Чиновники хотя бы извинились перед народом за свои пустые обещания! Ведь перед очередными выборами вновь придут к людям. А с чем? С какими глазами?

Есть вопросы и к санитарно-эпидемиологической службе, службе гражданской обороны, охраны природы и др.

При вводе в эксплуатацию поселок выглядел нарядно: с широкими зелеными газонами, посадками и романтическими "пушкинскими" фонарями во дворах. Прошло время, и картина очень изменилась. Газоны истоптаны вдоль и поперек, хотя рядом много асфальтированных дорожек, многие растения постоянно уничтожаются. В подъездах разбиваются стекла, расписываются, разрисовываются, царапаются стены, разрушаются мраморные лестницы, вырываются из стен выключатели, с дверей — ручки и замки, уничтожены домофоны и детские площадки, а также теперь разбиты фонари. А делают все это сами жильцы — взрослые и их дети.

Несмотря на запрет въезда автомашин во дворы с 23.00 до 6.00 часов, постоянно в каждом дворе "ночуют" полтора-два десятка автомобилей.

Появление в поселке представителей охраны правопорядка — редкое явление, которое не оставляет заметного следа. Более того, в поселке не знают, есть ли здесь участковый милиционер, а если есть, то кто он, и где, при необходимости, его можно найти.

Наш поселок теперь уже не такой нарядный, как в начале его заселения. Сегодня ему можно дать и соответствующее название — "поселок разбитых фонарей".

**Тамара ЛЕТЕЦКАЯ**

НАВІНЫ

## В Польше — центр белорусской культуры

**В польском городе Крынки Белостоцкого воеводства начал свою деятельность центр белорусской культуры "Villa Sokrates".**

Проведена первая литературная встреча "Трыялог беларускі" с участием авторов из Беларуси, Польши и стран Западной Европы.

Инициировал создание центра известный в Польше белорусскоязычный писатель и общественный деятель Сократ Янович. Цель нового объединения — содействие развитию белорусской культуры, в первую очередь литературы. В настоящее время центр готовит издание журнала под латинским названием "Anno Albarutheni" — "Год белорусский".

**БелаПАН**

## Завод ратуюць гільзы

**Слонімскі аўтарамонтны завод паявлічыў вытворчасць гільзаў для рухавікоў аўтамабіляў ГАЗ-24 і УАЗ з 4 да 8 тысяч штук.**

Рэалізацыя гэтых дэталяў дае прадпрыемству даход на суму 5 млрд. рублёў, што складае амаль трэцюю частку месячнай выручкі прадпрыемства. Павелічэнне вытворчасці прадукцыі стала магчыма ў выніку выхаду на расійскі рынак. Партнёрамі слонімцаў сталі Ніжненаўгародскі аўтамабільны і Варонежскі маторны заводы.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

## Хіба Захад нам дапаможа

**У Дзятлаўскі раён з Люксембурга паступіла гуманітарная дапамога, якая адрасавана раённай бальніцы, санаторыю "Радон" і дзіцячаму санаторыю "Баравічок".**

Яны атрымалі медыкаменты і абсталяванне. Па словах кіраўніка групы, сродкі сабралі ўдзельнікі скаўтскага руху і простыя грамадзяне. Акрамя ўсяго, медыкам былі ўручаны 1800 даляраў ЗША на патрэбы раённай бальніцы.

## Нарэшце...

**На выхадных днях будуць курсіраваць дадатковыя аўтобусы з Дзятлава ў аддаленую вёску Гута, пасёлак Навaельня і горад Ліду.**

Магчыма, будзе адноўлены аўтобусны маршрут Дзятлава — Гродна праз Масты.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

## Будет ли у белорусов настоящий рубль?

**А. Лукашенко заявил, что в ближайшее время будет введен белорусский рубль, а не расчетный билет, которым сейчас пользуются в Беларуси.**

В тоже время, начальник управления информации Национального банка Беларуси Анатолий Дроздов заявил, что в ближайшие два-три месяца введение в обращение новой национальной денежной единицы не планируется. По его словам, ситуация должна окончательно проясниться в октябре, после проведения переговоров с руководством Российской Федерации о введении единой валюты Союза Беларуси и России и подписания соответствующего соглашения.

## Дельное предложение

**Глава Администрации президента Михаил Мясникович направил в правительство письмо, в котором предложено обеспечить пропорциональное принятие правовых актов на русском и белорусском языках.**

Дело в том, что в последнее время имело место значительное доминирование русского языка в текстах официальных документов. К примеру, по сведениям БелаПАН, в 1998 году из более чем 2000 постановлений Совета Министров только 30 были на белорусском языке. Такая же ситуация сохранялась и в первой половине 1999 года: на белорусском языке было принято 8 постановлений и 1 распоряжение, на русском — соответственно около 1000 и 190.

В связи с этим решено обеспечить подготовку и внесение в правительство с 1 сентября нынешнего года проектов постановлений и других решений Совета Министров только на белорусском языке по следующим вопросам: утверждение состава коллегий республиканских органов государственного управления; проведение переговоров по проектам международных соглашений и договоров; увековечение памяти видных деятелей; выделение органам государственного управления, городам и районам денежных средств; предоставление субъектам хозяйствования финансовой помощи и бюджетных ссуд; передача прав управления имуществом и т.д.

**БелаПАН**

Газета Слонімская
Рэг. нумар 947 ад 24.03.97г.
Юрыдычны адрас: г.Слонім, Брэсцкая,109/12
Заснавальнік і рэдактар Віктар ВАЛАДАШЧУК

Адрас для пісем: 231800, г.Слонім, вул. Я.Купалы, 5.
Тэлефоны:
рэдакцыі........... 2-14-39
.............(017) 210-87-17
аддзел рэкламы 2-49-39

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні могуць не супадаць з поглядам рэдакцыі.

Рэдакцыя не вядзе перапіску з чытачамі і пакідае за сабою права рукапісы не рэцэнзаваць і не вяртаць.
Газета друкуецца на беларускай і рускай мовах.

Падпісана да друку 1 верасня 1999г.
Час падпісання 8:00.
Надрукавана ў Баранавіцкай узбуйненай друкарні, г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80.

Падпісныя індэксы:
64042 (індывідуальная)
63818 (ведамасная)
Наклад 7400 экз.
Заказ № 2345
© «Газета Слонімская»
Спасылка на "ГС" абавязковая
Ⓡ Матэрыялы публікуюцца на правах рэкламы

E-MAIL:gs@irex.minsk.by HTTP://www.irex.minsk.by/gs

Газета Слонімская
2 — 8 верасня 1999г., № 36 (117)

# ЛЕСАРУБЫ СПАБОРНІЧАЮЦЬ

**Ляснік Зэльвенскага лясніцтва Юрый Латош стаў пераможцам 5-га конкурсу лесарубаў Слонімскага лягсаса. Тым самым ён заваяваў права ўдзельнічаць у абласным аднаіменным конкурсе, які адбудзецца ў Гродне напярэдадні прафісійнага свята работнікаў лесу.**

Праграма спаборніцтваў лесарубаў, якія праходзілі ў мінулую суботу на гарадскім стадыёне Слоніма, складалася з пяці конкурсаў. Кожнае з сямі лясніцтваў выставіла сваю каманду. Напачатку леснікі прадэманстравалі свае майстэрства ў разборцы і зборцы бензапілы. Лепш за ўсіх з гэтым справіўся ляснік Жыровіцкага лясніцтва Мікалай Скарупіч. Другое і трэцяе месцы занялі Аляксандр Міхальчык з Жыровіч і Уладзімір Шаўлоўскі з Сяньkоўшчыны. У спаборніцтвах па раскряжаванні бярвенняў не было роўных ляснікy з Зэльвы Аляксандру Курачэнку. Прызёрамі таксама сталі Віктар Астапчык з Парэцкага і Аляксандр Міхальчык з Дзераўноўскага лясніцтваў.


Фота Мікалая СУПРУНА

Затым леснікі памерыліся сіламі ў дакладнай раскрыжоўцы бярвенняў. Хутчэй за ўсіх і з высокай якасцю выканаў гэтае заданне ляснік Парэцкага лясніцтва Анатоль Качарга. Другое і трэцяе месцы занялі Юрый Латош (Зэльва) і Іван Малевіч (Альбярцін).

Пад шум рухавікоў бензапіл і апладысменты прысутных першым абрэзаў сукі на берване ляснік Юрый Латош з Зэльвы. Крыху адсталі ад яго Анатоль Качарга і Уладзімір Шаўлоўскі.

Затым удзельнікі спаборніцтваў пераехалі на лясную дзялянку, што паблізу вёскі Шундры. Там быў дадзены старт пятаму заключнаму этапу конкурсу лесарубаў. Леснікі памерыліся сіламі ў валцы лесу. Па ўмовах гэтага віду конкурсу кожнай камандзе неабходна было як мага хутчэй спілаваць векавыя сосны і дакладна зваліць іх на месца, указанае суддзямі. Лепш за ўсіх справіўся з гэтым заданнем ляснік з Зэльвы Юрый Латош. Ён быў адзіным канкурсантам, які дакладна паклаў сасну на патрэбную адзнаку. Другое і трэцяе месцы занялі Анатоль Качарга і Уладзімір Шаўлоўскі.

Па выніках пяці відаў спаборніцтваў пераможцам стаў Юрый Латош, які атрымаў галоўны прыз – грашовую прэмію ў суме 10 млн. рублёў. Другое месца заняў Анатоль Качарга, трэцяе – Аляксандр Міхальчык. Яны атрымалі прэміі адпаведна ў суме 8 і 5 млн. рублёў.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

## НАВІНЫ

### Лазня будзе працаваць пановаму

**На днях мастоўскія камунальнікі давялі да ведама жыхароў, што ў гарадскую лазню ходзяць мала людзей.**

Таму яна будзе працаваць толькі ў пятніцу і суботу.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

### АТ аб'яўляе збор

**Адкрытае акцыянернае таварыства "Мастоўдрэў" аб'явіла аб правядзенні пазачарговага сходу акцыянераў.**

Як патлумачыў служачы АТ, які прасіў не называць яго прозвішча, на сходзе будзе разглядацца пытанне аб змене ў складзе кіраўніцтва таварыства.

**Антон МАКЕЙ**

### Слоним снова отличился

**Очередной учебный год на Гродненщине начнут в 667 школах 19 тысяч учителей и 188 тысяч учеников.**

51 процент школьников Гродненщины посещают школы с белорусским языком обучения, 48 – с русским. 72 процента школ имеет статус белорусскоязычных и только 5 процентов – русскоязычных. 23 процента школ – двуязычные.

В школах же Гродно, Лиды, Слонима обучение почти целиком ведется по-русски. В нынешнем году в учебных классах должен дебютировать 851 молодой специалист.

**Антон ЛАБОВИЧ**

## ЗДАРЭННІ

### Самасуд

**У Дзятлаве ўзбуджана крымінальная справа супраць двух братоў з Арменіі, якія прыехалі пагасцяваць да родзічаў у вёску Дварэц Дзятлаўскага раёна.**

Падчас пышнага застолля адзін з падпіўшых родзічаў паскардзіўся, што хтосьці з вяскоўцаў з яго падворку ўкраў тры мяхі збожжа. Гарачыя паўднёвыя хлопцы пайшлі па вясковай вуліцы шукаць злодзеяў. Хутка яны сустрэлі 40-гадовага мясцовага жыхара, які значыўся ў "чорным спіску" братоў. Звязаўшы свайго "палоннага", каўказцы завезлі яго ў бліжэйшы лясок, дзе, закапаўшы чалавека па шыю, пачалі яго дапытваць. Паздзекаўшыся і не атрымаўшы патрэбнага прызнання, яны адкапалі няшчаснага і адпусцілі. Вясковец неадкладна звярнуўся ў міліцыю.

### Магчыма, быў падпал

**Апоўначы, 30 жніўня, у двары жыхара вёскі Заверша Слонімскага раёна Іосіфа Саменкі ўзнік пажар.**

Агнём знішчана 20 тон саломы і сена. Спецыялісты пажарнай інспекцыі не выключаюць, што прычынай загарання мог быць і падпал.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

### Сумная статыстыка

**Напярэдадні новага навучальнага года кіраўнік спраў Мастоўскага райвыканкама Валянціна Певяртовіч давяла да ведама грамадскасці, што ў раёне застаецца актуальнай праблема паляпшэння ўмоў жылля настаўнікаў.**

123 з іх не маюць уласнага жылля або ім патрэбна паляпшэнне ўмоў пражывання. Асабліва складаная жыллёвая праблема на вёсцы, дзе ў апошнія гады будаўніцтва амаль не вядзецца.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

### Народ расслабіўся

**У мінулую суботу інспектар Мастоўскай ДАІ прапаршчык Эльяшэвіч затрымаў адзінаццаць п'яных кіроўцаў.**

З іх толькі двое парушальнікаў правіл дарожнага руху былі іншагароднімі, астатнія – мастаўчане і жыхары раёна.

**Антон МАКЕЙ**

**Слонимским ГРОВД в период с 14 по 15 июля 1999 года установил факт хищения долларов США из автомашины, находившейся на берегу р. Щара, возле д. Тальковщина Слонимского района. По данному факту Слонимский ГРОВД разыскивает потерпевшего.**

**Гражданам, которые располагают информацией по данному факту, просьба позвонить по тел. 2-39-02, 2-18-02.**

## ДАРОЖНЫЯ ЎРАЖАННІ

### Не дуры, дзед, галавы!

Аўтобус вось-вось адправіцца ад аўтастанцыі. Ужо і вадзіцель з паперамі ў жмені прыйшоў у салон, моцна зачыніў за сабой дзверы. Толькі ён усеўся за руль, як дзверы паволі адчыніліся і ў салон зазірнуў старэнькі дзядок.

– Сынок, падвязі мяне да скрыжавання. Тут недалёка. Мне вельмі баляць ногі, – і ў голасе, і ў вачах была мальба.

– Не дуры, дзед, галавы! Ні да якога скрыжавання я цябе не павязу. Зачыняй дзверы!

– Сынок, то ж я інвалід вайны, – не губляў надзеі дзядок. Ён яшчэ на нешта спадзяваўся. Расхінуў пінжак, які трымаў у руках, і паказаў ордэн Айчыннай вайны, прымацаваны да яго.

– Ну дык і што з таго! – абурыўся вадзіцель. – Мяне гэта не хвалюе.

Аўтобус крануўся з месца. Стары хворы чалавек паволі пашаркаў услед за ім.

### Ох, кабеты, кабеты...

На невялічкай станцыі мы чакалі прыгарадны цягнік. Праз дынамік міла жаночы голас паведаміў, што цягнік прыбывае на першую калейку. Тры кабеты з мяшкамі бульбы, нагружанымі на самаробную тачку, шпарка рванулі праз рэйкі. Ва ўсіх трох твары былі светла-бурачковага колеру. Сёння яны паспелі з самай раніцы прынясць на грудзі і былі надзвычай узбуджаныя і вясёлыя. І гэта ў ранні час, калі некаторыя пасажыры яшчэ сонна пазяхалі.

– Э, а чаго гэта вы ўсе там стаіце? – крыкнула адна з сяброvак.

– Цягнік чакаем на Баранавічы, – адазваўся адзін мужчына.

– А што, хіба ён прыйдзе на першы пуць?

– Аб'явілі, што на першы.

У кампаніі кабет пачаўся перапалох. Яны схапілі тачку з мяшкамі і кінуліся праз пуці з такім спалоханым выглядам, нібы толькі што павper дамілі пра бамбёжку станцыі. Адзін неасцярожны рух – і мяшок з бульбай упаў з тачкі. Кабеты пачалі яго падымаць. Так стараліся, што скінулі другі. На пероне зарагаталі.

– І не сорамна смяяцца? Пайшоў бы ды памог, бачыш, як мучаюцца, – заўважыла мая знаёмая.

– О, для іх гэта не цяжар. Такія кабеты горы могуць звярнуць.

– Дык жа спозняцца. Цягнік ужо хутка прыбудзе.

– Не спозняцца.

І сапраўды, яны ўзвалаклі мяшкі на тачку, ды так рванулі праз рэйкі, што прамінулі ўсіх пасажыраў і сініліся ледзь не пад пераходным мостам. Не паспелі дух перавесці, як да перона падкаціў цягнік. Да таго месца, дзе стаялі кабеты, не дайшоў нават цеплавоз, так што ім прыйшлося зноў перці тачку. Цяпер ужо назад.

Паспелі. Улезлі ў вагон, расселіся акурат насупраць нас. Трошкі адсопшыся, адкаркавалі пляшку віна і па чарзе прыкладіся да горла: трэба было замачыць такую ўдалую пасадку.

### Зяць

Ён кожны год прыязджае з Ленінграда ў нашу вёсачку і заўсёды здзіўляе мясцовых жыхароў. Ён вырас на асфальце і, пражыўшы там больш як паўстагоддзя, разам з жонкай бярэцца рабіць усякую сялянскую работу. А яе заўсёды збіраецца шмат у адзінокага старога чалавека: то плот пахіліцца, то хлявушок трэба адрамантаваць, то грады прапалоць. Ён умее ўсё. Нягледзячы на сваю высокую адукаванасць, не саромеецца карміць свіней, рваць для іх траву.

Але найбольш вясковы люд кранаюць адносіны зяця да цесця. Яны нейкія дзіўныя, незразумелыя. Напрыклад, калі прывязе старэнькага ў магазін ці касцёл, выйдзе з салона, адчыніць перад дзедам дзверы і, узяўшы яго пад руку, дапаможа выйсці. Потым гэдак жа пасадзіць. І ўсё без спешкі, мітусні.




Зяць называе цесця не татам, як звычайна ў нашых мясцінах, а па імені і па імя бацькі. Ды, уласна кажучы, "тата" у адносінах да цесця ці свёкра ў большасці выпадкаў гучыць фальшыва. Не можа быць чужы чалавек ні татам, ні мамай. Бацькі ў кожнага адны. І таму большасць нявестак і зяцёў не называюць "новых сваякоў" ніяк, ці "вы", што гучыць вельмі непрыстойна. А па імяні і па імя бацькі ў адносінах да цесця з вуснаў гэтага чалавека гучыць так прыгожа, так ласкава, што міжволі парадуешся.

– Можа гэта і грэх казаць, але я чакаю зяця больш, чым дачку, – прызнаецца дзядок. – Мы гутарым з ім пра ўсё на свеце. Ён – гарадскі, адукаваны чалавек, умее так проста расказваць пра самыя складаныя рэчы – заслухаешся. А такую дабрыню і спагаду, як у яго, цяпер рэдка дзе сустрэнеш. Ён запрашаў мяне жыць да сябе, маўляў, адпаму ў такія гады цяжка ў вёсцы. Я і паехаў бы, каб дзе бліжэй, але ж як падумаю, што так далёка ад дому – не магу адважыцца.

Дзявяноста гадоў мае дзядок. Усё жыццё адпрацаваўшы ў калгасе, не сабраў ніякага багацця. Але ніколі не зайздросціў таму, хто мае прасторныя катэджы і шыкоўныя машыны. Кажа, што, па вялікаму рахунку, ён багацейшы за ўсіх, бо мае такога цудоўнага зяця. А дабрыню і спагаду не купіш ні за якія грошы.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

 



## Кватэру можна прадаць

***Ці маю я права падараваць сваю прыватызаваную кватэру былому зяцю? Год таму дачка з другім мужам з'ехала ў Расію. Зяць уласнага жылля не мае.***

**Алена Фёдараўна, г.Слонім**

У адпаведнасці з Законам "Аб прыватызацыі жыллёвага фонду ў Рэспубліцы Беларусь", вы, з аднаго боку, маеце права распараджацца прыватызаванай кватэрай па свайму жаданню: падараваць, прадаць, абмяняць і г.д. Але ёсць і абмежаванні: падараваць кватэру можна толькі блізкім родзічам. Ваш зяць, пасля разводу, такім ужо не з'яўляецца. У гэтым выпадку лепш за ўсё аформіць куплю-продаж сваёй кватэры зяцю.

## Розны даход — розныя аліменты

***Мой былы муж — прыватны прадпрымальнік. Зарабляе ён па-рознаму, а вось аліменты на дзяцей з месяца ў месяц плоціць аднолькава, без уліку росту цэн, інфляцыі і г.д. Ці правільна гэта?***

**Л. А., г. Слонім**

Аліменты на непаўналетніх дзяцей з іх бацькоў спаганяюцца ў памеры: на адно дзіця — чацвёртай часткі, на дваіх дзяцей — адной трэцяй, а на траіх і больш дзяцей — паловы заробку (даходу) бацькоў. У тых выпадках, калі бацька, які абавязаны плаціць аліменты, мае нерэгулярны заробак (даход), альбо ў іншых выпадках, калі спагнанне аліментаў у долевых адносінах да заробку бацькі немагчыма, ці складана, аліменты могуць быць вызначаны ў цвёрдай грашовай суме, якая павінна спаганяцца штомесячна. Прысуджэнне такіх аліментаў можа быць толькі па просьбе асобы, якая патрабуе выплаты сродкаў на ўтрыманне дзяцей, а іх памер вызначаецца, зыходзячы з дакумента, які падцвярджае гадавы даход бацькі.

У выпадку павелічэння даходу бацькі, які абавязаны плаціць аліменты ў цвёрдай грашовай суме, спагнальніку неабходна звярнуцца ў суд з заявай аб павелічэнні памеру аліментаў.

## На памер пенсіі не паўплывае

***Мне 56 гадоў. 23 з іх адпрацаваў на адным заводзе. Цяпер мне прапанавалі работу на іншым прадпрыемстве. Але хвалююся, што парушыцца бесперапынны стаж працы на адным месцы пры налічэнні пенсіі.***

**Іван Паўлавіч, г. Слонім**

У адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам бесперапынны стаж працы на адным прадпрыемстве на памер пенсіі не ўплывае.

## Ільготы не прадугледжаны

***Мы з сынам жывём у аднапакаёвай кватэры плошчай 18 квадратных метраў. Сын з'яўляецца інвалідам Чарнобыля. Ці можам мы стаць на льготную чаргу для пашырэння жылля і атрымаць дадатковы пакой?***

**Іосіф К., г. Слонім**

Інваліды-чарнобыльцы маюць шэраг ільгот па артыкулу 18 Закона "Аб сацыяльнай абароне грамадзян, пацярпеўшых ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС". Прадугледжана нечарговае забяспечванне іх жыллём у выпадку неабходнасці ў паляпшэнні жыллёвых умоў — так званае пашырэнне жылля. Для такой катэгорыі інвалідаў устаноўлена норма — 8 квадратных метраў на чалавека. У вашым выпадку метраў жыллёвай плошчы хапае. Дадатковы пакой выдзяляецца інвалідам пры першапачатковым атрыманні жылля.

# ПОСОБИЯ ПО ВРЕМЕННОЙ НЕТРУДОСПОСОБНОСТИ

**Недавно внесены изменения в Положение о порядке обеспечения пособиями по временной нетрудоспособности. Корреспондент "ГС" встретился с начальником Слонимского районного отдела фонда социальной защиты населения Галиной Добриян и попросил ее прокомментировать документ.**

***— Галина Львовна, расскажите, пожалуйста, об основных изменениях при начислении пособий по временной нетрудоспособности?***

—Изменения направлены на существенное повышение уровня жизни работников, которые временно нетрудоспособны. Во-первых, пособие выплачивается в размере 80% среднедневного или среднечасового заработка работника, приходящиеся на первые шесть календарных дней нетрудоспособности, и в размере 100% среднедневного (среднечасового) заработка за последующие дни (часы) нетрудоспособности. Это означает, что в большинстве случаев уже с пятого рабочего дня размер пособия будет составлять 100%. Кроме того, указанная норма позволит наиболее точно исчислить пособие работникам, учет рабочего времени которых ведется в часах, т.к. пособие в размере 80% среднечасового заработка выплачивается за пропущенные по графику работы часы, приходящиеся на первые шесть календарных дней. Максимальный размер пособия по временной нетрудоспособности за календарный месяц не должен превышать трехкратную (по ранее действовавшему законодательству — двухкратную) величину средней заработной платы рабочих и служащих в месяце, предшествующем каждому месяцу нетрудоспособности. Внесены дополнения в восемь пунктов постановления, касающихся начисления пособий семьям, воспитывающих детей-инвалидов. В частности, увеличен возраст детей-инвалидов с 16 до 18 лет, родителям которых в случае заболевания или травмы пособие будет выплачиваться за весь период нетрудоспособности.

Существенные изменения произошли и в начислении пособий по временной нетрудоспособности лицам, которые находятся на лечении в противотуберкулезных санаториях. Таким больным пособия будут выплачиваться за весь период лечения, но не более, чем за 90 календарных дней в году. Ранее действующим законодательством такой льготы не было предусмотрено.

В настоящее время на лечение в центр реабилитации в г. Витебск направляются не только воины-интернационалисты, но и члены их семей, а также члены семей погибших воинов-интернационалистов. В связи с этим, пособие по временной нетрудоспособности выплачивается за весь период лечения, но не более 24 календарных дней, не только воинам-интернационалистам, но и их женам, а также вдовам погибших.

***— А каким категориям работников выплаты льгот и пособий по временной нетрудоспособности прекращены?***

— Раньше жены офицеров, прапорщиков, мичманов и военнослужащих, проходящих службу по контракту, пользовались льготой по выплате пособия по временной нетрудоспособности в размере получаемого заработка, независимо от стажа работы. Это было связано с трудностями в трудоустройстве указанных лиц, в то время, как размер пособия исчислялся в зависимости от непрерывного стажа. В настоящее время пособия по временной нетрудоспособности исчисляются независимо от стажа работы, поэтому необходимость в предоставлении указанной льготы отпала.

Кроме этого, пособие по временной нетрудоспособности не выплачивается членам колхозов, у которых временная нетрудоспособность наступила в период невыходов на работу без уважительных причин, продолжительность которых превышает два месяца. Объясняется это тем, что на практике пособия по временной нетрудоспособности выплачивались и тем членам колхозов (в основном — полеводам), которые на момент наступления временной нетрудоспособности длительное время не работали.

## Шмат дзяцей — раней на пенсію

***Чула, што мнагадзетныя сем'і маюць розныя льготы. Я выхавала шасцёра дзяцей — ці магу я раней выйсці на пенсію і ў колькі гадоў канкрэтна?***

**Зінаіда Васільеўна, Слонімскі раён**

Жанчыны, якія нарадзілі пяцёра і больш дзяцей і выхавалі іх да 16-гадовага ўзросту, могуць выйсці раней на пенсію незалежна ад узросту пры ўмове, што яны маюць стаж працы ў калгасах, саўгасах, на іншых прадпрыемствах сельскагаспадарчай вытворчасці і менавіта ў сферы сельгасвытворчасці не менш, як 10 гадоў (час догляду за дзецьмі ў стаж не залічваецца).

## У выпадку разводу

***Хачу развесціся з жонкай. Ці праўда, што ў выпадку скасавання шлюбу прыйдзецца заплаціць вялікі штраф?***

**М. С., г. Слонім, вул. Чырвонаармейская**

Для таго, каб аформіць скасаванне шлюбу, вы, як істец, павінны падаць адпаведную заяву ў суд. Акрамя гэтага, вы павінны заплаціць дзяржпошліну ў памеры двух мінімальных заробкаў, прадаставіць пасведчанне аб шлюбе, копіі пасведчанняў аб нараджэнні дзяцей, даведку аб памеры заробку і даведку з ЖЭС. Падрабязнасці аб форме падачы іскавай заявы і тэрмінах разгляду справы аб скасаванні шлюбу можна даведацца ў судзе.

## Зыходзячы з канкрэтных абставін

***Які парадак пражывання ў інтэрнатах для няпоўных сем'яў, якія жывуць у адным пакоі? Я — маці-адзіночка і маю нязручнасці падчас пражывання ў адным пакоі з сынам. Ці магу я патрабаваць рассялення ў асобныя пакоі. Ці не прымусяць мяне выселіцца з інтэрната?***

**А. Т., г. Слонім**

Грамадзяне, якія жывуць у інтэрнаце, могуць засяліць у пакой сваіх непаўналетніх дзяцей. Вы таксама маеце права патрабаваць рассялення. Адміністрацыя прадпрыемства па магчымасці можа задаволіць вашу просьбу. Але з другога боку, адміністрацыя не абавязана выдзяляць вам яшчэ адзін пакой, бо інтэрнат прызначаны для пражывання адзінокіх грамадзян. Пытанне вырашаецца, зыходзячы з канкрэтных абставін і магчымасцей.

А вось высяленне з інтэрната магчыма толькі на падставе закона. Адзінокія асобы з непаўналетнімі дзецьмі могуць быць выселены толькі ў тым выпадку, калі спынены працоўныя адносіны з прадпрыемствам.

# НЕ ПРЕВЫШАЙ СКОРОСТЬ! ДАЖЕ ЕСЛИ ТЫ МИНИСТР

**Министр внутренних дел Эстонии Юри Мыйз задержан дорожной полицией за превышение скорости.**

Как сообщил пресс-секретарь полиции Харьюского уезда, в субботу днем на шоссе Туула-Кейла полицейский патруль задержал автомобиль Ю.Мыйза, шедший со скоростью 140 километров в час. Разрешенная скорость на этом участке - 90 километров в час.

Министру, который является также кандидатом от правящей партии "Союз Отечества" в мэры Таллина, грозит штраф в размере от 60 до 150 дневных зарплат или лишение водительских прав на срок от 3 до 6 месяцев.

Премьер-министр Эстонии Март Лаар не стал спешить с осуждением соратника по партии. "Меня как главу правительства радует, что Мыйз в качестве министра внутренних дел сумел так хорошо наладить работу полиции, что без внимания и наказания не остаются и нарушения самого министра", - заметил глава правительства.

**Интерфакс**

## Ільготы засталіся

***Мне 72 гады. Жыву ў прыватызаванай кватэры. Як мне лепш зрабіць: завяшчаць кватэру аднаму з сыноў, ці падараваць? Калі падараваць, то атрымаецца, што буду дажываць у кватэры сына. А як тады мне, ветэрану вайны, аплочваць камунальныя паслугі?***

**А. В., г. Слонім, вул. Яршова**

Уласнік прыватызаванай кватэры мае права распараджацца ёй па свайму жаданню. Магчымы любыя варыянты, у тым ліку і завяшчанне кватэры, і дарэнне.

Калі вы цвёрда вырашылі перадаць сваё права ўласнасці на кватэру аднаму з сыноў, то лепш за ўсё зрабіць гэта шляхам дарэння. Пасля натарыяльнага афармлення дагавору і рэгістрацыі права ўласнасці на кватэру ў бюро тэхнічнай інвентарызацыі, кватэра будзе належаць сыну, калі ён у ёй нават не будзе прапісаны.

Што датычыць аплаты камунальных паслуг, то льготы, якія прадастаўляюцца ветэранам вайны, захоўваюцца за вамі, незалежна ад таго, хто з'яўляецца ўласнікам кватэры.

## "Запарожац" у спадчыну

***Мой бацька, як інвалід Вялікай Айчыннай вайны, атрымаў бясплатна "Запарожац" з ручным кіраваннем. Нядаўна бацька памёр. Каму ў спадчыну пераходзіць аўтамабіль? Можа я павінен здаць яго ў райсабес?***

**Іван Казакевіч, Слонімскі раён**

У адпаведнасці з "Палажэннем аб парадку забяспечвання інвалідаў транспартнымі сродкамі і кампенсацыі на іх абслугоўванне" пасля смерці інваліда атрыманы ім аўтамабіль "Запарожац" застаецца ва ўласнасці членаў сям'і, з якімі інвалід жыў сумесна. Гэты аўтамабіль здымаецца з уліку ў райсабесе. Для пераафармлення аўтамабіля на новага ўладальніка ў аддзел сацыяльнай абароны неабходна прадаставіць наступныя дакументы: заяву члена сям'і, копію пасведчання аб смерці інваліда, даведку з месца жыхарства аб складзе сям'і інваліда, копіі дакументаў, якія падцвярджаюць сваяцтва з інвалідам.

## Звяртайцеся ў суд

***Два гады назад я ў спадчыну атрымала ва ўласнасць аднапакаёвую прыватызаваную кватэру і стала яе ўладальніцай. Але вось жыць у ёй я не магу, бо там прапісаны і жыве былы сужыцель маёй нябожчыцы маці. Ці маю я права выселіць гэтага чужога для мяне чалавека з маёй кватэры? Я не маю магчымасці і не жадаю даглядаць старога чалавека і жыць у родзічаў, маючы жыллё.***

**А. І., г. Слонім**

Грамадзяне, якія маюць ва ўласнасці жылое памяшканне (дом, кватэру, пакой), маюць права выкарыстоўваць яго для асабістага пражывання і пражывання членаў іх сямей, а таксама ўсяляць у гэтае памяшканне іншых грамадзян і здаваць у найм на ўмовах і парадку, устаноўленых заканадаўствам. У даным выпадку пытанне павінна разглядацца ў судовым парадку з улікам усіх заслугоўваючых увагі абставін. Пры магчымасці пасяліць гэтага чалавека ў спецыяльны інтэрнат, не выключана рашэнне суда аб скасаванні дагавора найму і перасяленні наймальніка ў інтэрнат.

**Старонку падрыхтаваў Валянцін ЧУРЫЛА, юрыст**

 

**ФУТБОЛ. 1-АЯ ЛІГА.**

# "КАМУНАЛЬНІК" ПРЫТУШЫЎ "ЗОРКУ-ВА-БДУ"

**"Камунальнік" (Слонім) — "Зорка-ВА-БДУ" (Мінск) — 6:0**

Прыемная спартыўная падзея адбылася ў мінулую нядзелю, калі слонімскі футбольны клуб літаральна разграміў каманду з Мінска "Зорка-ВА-БДУ".

У першым тайме госці толькі адзін раз нанеслі ўдар па варотах Ігара Кіркіжа, ды і то мяч праляцеў вышэй перакладзіны. Затое сапраўдным гаспадаром на полі быў "Камунальнік". Галкіпер гасцей толькі паспяваў даставаць мячы са сваіх варот. Спачатку прыгожы гол галавой забіў Яўген Савань, пасля вызначыўся Аляксей Серада, а трэці гол на свой рахунак запісаў Генадзь Карасёў. А за некалькі хвілін да заканчэння тайма ў штрафной "Зоркі..." збіваюць Міраслава Ясінскага. Суддзя прызначае пенальці, які спакойна рэалізаваў Георгій Татарашвілі. З лікам 4:0 на карысць слонімцаў футбалісты пайшлі на перапынак.

**Слонім. 29 жніўня. Стадыён "Юнацтва". 4500 гледачоў. Суддзя С.Шмолік (Брэст).**
**Камунальнік: Кіркіж, Капельян, В. Дзегіль, А. Дзегіль (к), Дым, Пагоцкі, Серада, Ясенскі, Карасёў, Савань, Татарашвілі.**
**Галы: Савань (9), Серада (25), Карасёў (33), Татарашвілі (35, 90), Пагоцкі (79).**

У другім тайме "Камунальнік" трохі супакоіўся і дазволіў гасцям перайсці на іх палавіну поля. Аднак сапернікі так і не здолелі забіць гол прэстыжу. Таму, калі не забіваеш ты – забіваюць табе. У канцы ўсёй гульні суперарыгінальны гол у вароты "Зоркі..." забіў Андрэй Пагоцкі. А на самых апошніх хвілінах, быццам з-пад зямлі, з мячом "вырас" Георгій Татарашвілі і паставіў пераможную кропку – 6:0. Гэта, дарэчы, яго 17 гол у першай лізе.

Ад добрай гульні "Камунальніка" засталіся задаволенымі і балельшчыкі, і трэнеры, і кіраўніцтва клуба. А калі ўлічыць, што не ігралі траўміраваныя Баль, Савіцкі, Баян, дык смела можна сказаць, што каманда ёсць.

Наступную гульню "Камунальнік" правядзе 4 верасня ў Пінску, дзе, відаць, на поле выйдзе і Алег Баян.

**Сяргей ЧЫГРЫН**


Фота Мікалая СУПРУНА


Фота Мікалая СУПРУНА

**Вынікі астатніх матчаў тура:**

Нёман — Орша — 0:0
Дынама-Юні — Пінск-900 — 2:0
Камунальнік (Св.) — Керамік-Бяроза — 4:0
Тарпеда — Ведрыч-97 — 1:2
Рагачоў — ЗЛіН — 0:0
Граніт — Палессе — 4:0

**ТУРНІРНАЯ ТАБЛІЦА пасля 21-га тура**

| | Г | В | Н | П | М | А |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. Ведрыч-97 | 20 | 12 | 6 | 2 | 38:20 | 42 |
| 2. Камунальнік (Сл.) | 21 | 12 | 5 | 4 | 41:20 | 41 |
| 3. Нёман | 21 | 11 | 5 | 5 | 37:23 | 38 |
| 4. Дынама-Юні | 21 | 10 | 6 | 5 | 32:24 | 36 |
| 5. Камунальнік (Св.) | 21 | 9 | 8 | 5 | 30:23 | 36 |
| 6. Граніт | 21 | 9 | 8 | 4 | 30:17 | 35 |
| 7. ЗЛіН | 21 | 8 | 6 | 7 | 30:18 | 30 |
| 8. Тарпеда | 21 | 7 | 9 | 5 | 38:32 | 30 |
| 9. Рагачоў | 21 | 6 | 9 | 6 | 32:31 | 27 |
| 10. Орша | 21 | 6 | 8 | 7 | 27:26 | 26 |
| 11. Керамік-Бяроза | 21 | 6 | 6 | 9 | 23:33 | 24 |
| 12. Палессе | 21 | 6 | 6 | 9 | 25:40 | 24 |
| 13. Зорка-ВА-БДУ | 21 | 4 | 7 | 10 | 24:41 | 19 |
| 14. Вейна-Днепр | 19 | 4 | 6 | 9 | 20:34 | 18 |
| 15. Пінск-900 | 21 | 4 | 5 | 12 | 21:34 | 17 |
| 16. Віцьбіч-Дынама | 20 | 0 | 4 | 16 | 19:51 | 4 |

сезон-99 • 1-я ліга • сезон-99 • 1-я ліга

**АНЕКДОТЫ**

***

- Ты почему не ешь? - спрашивает мать маленького сына.
- Только что сказал, что голодный как волк.
- А ты когда-нибудь видела волка, который ест морковку?

***

Поймал «новый русский» Золотую Рыбку и спрашивает:
- Чего тебе надобно, Золотая Рыбка?

***

Письмо отца сыну-студенту: «Высылаю тебе 10$, как ты и просил. Только запомни: «десять» пишется с одним нулем, а не с двумя!»

***

- Если я застрахую жизнь своего мужа на миллион долларов, — спросила женщина адвоката, — а на следующий день он умрет, что я получу?
- Пожизненное заключение.

***

Доктор говорит больному:
- Вы знаете, что глубокое дыхание убивает микробов и очищает легкие?
- Разве? Но как их заставить глубоко дышать?

***

Разговаривают двое влюбленных.
- Скажи, милый, если я откажусь стать твоей женой, ты действительно покончишь с собой?
- Несомненно, дорогая! Я всегда так поступаю в подобных ситуациях.

***

Два англичанина спорят:
- Милорд, Вы негодяй!
- От милорда слышу!

***

Идет бабка по полю, вдруг из леса выходит мужик, весь грязный, оброссший и с ружьем:
- Бабка, немцы в деревне есть?
- Бог с тобой, сынок, война-то уже сорок лет, как закончилась.
- !? Е-мое:, а я до сих пор поезда под откос пускаю.

***

- Что это за татуировка у тебя ниже спины: 00-88? - Это не татуировка, это жена нажала на газ, когда я гараж открывал.

***

- Нет, нет, сэр, чтобы купить мышьяк, нужен рецепт. Одной фотографии вашей тещи недостаточно.

**ЭТО ИНТЕРЕСНО**

### Миллион человек в поисках инопланетян

**Более миллиона человек из 223 стран мира приняли участие в поиске сигналов инопланетной цивилизации при помощи своих персональных компьютеров.**

Самый масштабный за всю историю компьютерный расчет производится с помощью специальной программы SETI@home, которая работает в режиме обычной заставки. Когда включенный компьютер не используется какое-то время, эта программа активизируется и начинает обрабатывать данные, полученные посредством радиотелескопа, установленного в Пуэрто-Рико, в поисках следов инопланетных цивилизаций.

По словам создателей программы, SETI@home пользуется огромной популярностью не только у одиночек, но и в фирмах, школах, правительственных организациях и университетах, которые соревнуются между собой в количестве обрабатываемой информации.

**Интерфакс**

**НАША ІНТЭРВ'Ю**

## Аляксандр Клябанаў: "ТЭАТР – ТВАР ГОРАДА"

**У Слонімскім беларускім драматычным тэатры пачаўся новы тэатральны сезон. З гэтай нагоды карэспандэнт "ГС" меў гутарку з дырэктарам тэатра Аляксандрам Клябанавым.**



***— Аляксандр Леанідавіч, якім будзе новы тэатральны сезон?***

— 1 студзеня 2000 года нашаму тэатру спаўняецца 10 гадоў. Дзесяць гадоў – параўнальна невялікі тэрмін. І тым не менш ён ужо дазваляе падвесці пэўныя вынікі тэатральнай дзейнасці ў Слоніме. За гэты час шмат зроблена дзеля адраджэння беларускага нацыянальнага мастацтва. Пастаўлена дзесяткі спектакляў па п'есах беларускіх, рускіх, украінскіх, французскіх і італьянскіх драматургаў. Тэатр аб'ездзіў усю Беларусь. Ды і ў гэтым сезоне тэатральнае жыццё, у асноўным, пройдзе "на колах". Вымушаны гэта рабіць, бо ўмовы, у якіх знаходзіцца сёння тэатр, вельмі складаныя. Дарэчы, сёлета на акцёрскі факультэт Беларускай Акадэміі Мастацтваў паступілі на завочнае аддзяленне восем нашых акцёраў. Гэта вельмі радуе, тым больш, што ў тэатрах рэспублікі не хапае акцёраў. Наш тэатр мае свой дух, свой твар, добрыя вынікі работы. Але трэба дасягаць яшчэ большага. Гэта адзіна магчымы шлях да поспехаў. А ў мастацтве, як вядома, заўсёды ўсё наперадзе...

***— Калі і якія новыя спектаклі ўбачаць слонімскія гледачы?***

— Сёння на рахунку тэатра шэраг цікавых і арыгінальных акцёрскіх і рэжысёрскіх работ.Палітра пастановак даволі разнастайная, кожны глядач можа выбраць тое, што яму па душы. Я вельмі задаволены тым, што наша праца прыносіць радасць слонімцам, будзем і надалей шчыра працаваць для іх. Калі раней наш тэатр больш працаваў для юных гледачоў, а для дарослых рыхтаваліся 1-2 спектаклі за сезон, то цяпер мы вырашылі працаваць паіншаму. З лістапада кожны тыдзень у тэатры будзем паказваць спектаклі. З ранейшага рэпертуару гледачы пагледзяць "Камедыю" і "Жаніцьбу Бальзамінава". З новых спектакляў — пастаноўку Сяргея Бачкова з Гродна "Пан міністар", камедыю "На бойкім месцы" рэжысёра з Мінска Казіміра Мальковіча і камедыю Гальдоні "Гаспадыня гасцініцы", працу над якой завяршае Мікалай Варвашэвіч. На жаль, паказваць гэтыя спектаклі мы пакуль не можам. Прычына даволі банальная: у памяшканні тэатра працякае дах, поўнасцю адсырэла глядзельная зала. Усё гэта патрабуе хуткага і сур'ёзнага рамонту.

***— А чым парадуеце дзяцей?***

— Што тычыцца дзіцячага рэпертуару, лічу, што юныя гледачы не будуць пакрыўджаныя. Малады рэжысёр тэатра Святлана Наўгародская дэбютавала спектаклем "Маўглі" па п'есе Аляксея Якімовіча. Не ўсе дзеці яшчэ паглядзелі спектаклі "Папялушка" і "Жыла-была Сыраежка". Да навагодніх свят пакажам новую зімовую казку.

***— Аляксандр Леанідавіч, калі ўсё ж пачнецца будаўніцтва тэатра ў цэнтры горада на месцы старога РДК?***

— Тэатр у Слоніме для мяне радасць і боль.Тэатр — гэта твар горада. І, як высвятляецца, Слонім пакуль яго мець не хоча. І калі раней мы спадзяваліся, што хутка будзе пабудаваны тэатр, то цяпер пра гэта толькі марым. Добра калі наступны юбілей мы сустрэнем у новым памяшканні. Новы будынак не толькі захавае тэатр у Слоніме, але і надасць яму другое дыханне, прывабнейшы выгляд цэнтру горада. І каб на аптымістычнай ноце закончыць нашу размову скажу, што жыццё тэатра працягваецца. Ён жыве і будзе жыць там, дзе ёсць сапраўднае натхненне, якога майстрам беларускай сцэны ніколі не прыходзілася займаць.

**Гутарыў Сяргей ЧЫГРЫН**

Новый конкурс

## РАЗБОРЧИВАЯ покупательница

**(Загадка для нестандартно мыслящих).**

Перед самым закрытием женщина идет по большому бакалейно-гастрономическому магазину и толкает перед собой тележку. Она останавливается возле разных полок, внимательно разглядывает различные товары и складывает их в тележку. Закончив, она покидает торговый зал, но не подходит к кассиру и ни за что не платит.

(Продавцы ее видели.) Объясните, кто это был? Тел. 2-14-39.

**Победителя ждет ЯЩИК ПИВА.**